**Ад конторы тыднявіка «Вольная Беларусь»**

З № 4 канчаецца тэрмін месячнае надпіскі. Хто хоча адтрымліваць журнал надалей, той павінен аднавіць надпіску, бо з № 5 высылка прыпыніцца.

---

Літару *є* можня замяніць літараю *і* тольві у тым выпадку, калі апошні склад ні мае націску.

§ 5. Прыкметнікі, а гэтак само заміжіменнікі [мѣстоимен.] у частковым [родительн.] падзежы аднае лічбы трэба канчаць на *го*, калі націск у слові ні падае на перадапошні склад, напрыклад: *добрага, сіняга*, беларускага, вашага, нашага, але-скупога, дурнога, сьляпога.

§ 6. Усе прыкметнікі мносьвянай лічбы, ні гледзючы на род, трэба канчаць на *я*, напрыклад: новыя сталы, новыя кнігі, новыя вокны.

§ 7. Калі безгалосны гаманок ні ясна выкаўляецца, дык яго выяўляюць, меняючы слово і ставячы посьля ніяснага галосны гаманок, напрыклад: год—годы, хлеб—хлеба, плот—платы. Зрабіўшы гэта, стане ясна якую літару трэба пісаць.

§ 8. Гаманок *д* у беларускай мові ніколі ні бывае мяккім, а калі *д* зьмякчаецца, то пераходзіць у гаманок *дз*, напрыклад: *дзіця*, а ні *дiця*, *дзякуй*, а ні *дякуй*. Гэтак само у беларускай мові німа мяккага *т*, а яно заусюды пераходзіць у *ць*, напрыклад: *ты—цябе*, *сьвет—сьвеціць*.

§ 9. Посьля *ж, ч, ш*, трэба пісаць *ы*, а ні *і*.

§ 10. Гаманкі *з, с* і *дз*, аддзеляныя ад мяккіх галосных (е, я, і) гаманкоу другімі, ні гартаннымі гаманкамі, а так само перад *ць*, заусюды зьмякчаюцца літараю *ь*, напрыклад: *зьмест, зьнік, сьпеваць*, але *згінуць, схіснуцца*, *скеміць*—пішацца без *ь*, бо тут маецца гартанны гаманок.

§ 11. Калі іменнікі [имена существ.] канчаюцца на *ка*, то перад складам *ка* посьля *з, с, дз, ць*. заусюды будзе ставіць *ь*, напрыклад: Антоська, *бацька*, *грazька, дзядзька*, або: калі іменнік канчаецца на *ь*, то ен заховываецца і перад *ка*.

§ 12. Словы, маючыя у адной лічбі канчатак *нне, цце, лле*, у мносьвянай лічбі канчаюцца на *і*, напрыклад: пытанне—пытанні, лахмоцце—лахмоцці, вяселле—вяселлі.

§ 13. Калі трэба аддзяліць безгалосны гаманок ад галоснаго, то паміж імі ставіцца *ь*, або (’), напрыклад: зьяца, зьеу, пад’еу.

§ 14. Трэба пісаць: *перад, прэд, без, чэраз, цераз*, напрыклад: *перавісаць*, *прэдстаунік*, *безмежны*.

§ 15. У беларускай мові вельмі часта гаманок *я* без націску пераходзіць у *і*, напрыклад: *міне, цібе, ішчэ, ціпер*, заміж—*мяне, цябе, яшчэ, цяпер*. У гэтым выпадку трэба пісаць так, як гавораць.

§ 16. Злучаныя словы павінны зьвязвацца літараю *а*, напрыклад: добрачынасьць, новагодні.

§ 17. У словах чужых, ні беларускіх, трэба трымацца іх уласнаго правопісу, дадаўшы ім беларускую акцэнтацыю, напрыклад: комітэт, соцыяльны, мэльодзія (мелодія) і т. д..

Рэшта правілау беларускаго правопісу будзе выкажана у напісанай праз фільолога Б. Тарашкевіча граматыцы, каторая тольві дзякуючы цяжкім варункам і грамадзянскай нідбаласьці беларусау, ні магла зьявіцца у друку да гэтаго часу.

**Я. Л—к.**

---

**К. Вясёлы.**

# Ні розумам сьцяміу, а сэрцам,

*(Пьеса з вясковаго жыцця на 4 акты).*

(Глядз. № 3.)

## Дзея чацьвертая.

*(Хата Дорашава. Стол засланы абрусам. У хаці сам Язэп, матка і Наста).*

**Зьява XV.**

*(Тыя самыя і Янка, Грышка, яго хрышчоны бацька і яго матка).*

*Янка. (перастyпаючы парог)*. Дык ен як стау гаварыць, дык усе роуна, як ксендз у касьцелі. Ну, старога і прабрало, і памякчэу стары.

*Матка Грышкава*. Пахвалены Езус Хрыстус! (*Баючыся, спыняецца у баку, за ею Грышка, наперад выступае хрышчоны, ен жа і валастны суддзя).*

*Язэп*. На векі... амэн!

*Хрышчоны*. Вечар добры Язэпу. Як маецеся самі?

*Язэп*. Добры вечар!.. А нічога-ж. Як самых Бог гадуе?

*Хрышчоны*. Дзякуй, братаемся па-ціху.

*Язэп*. Праходзьце далей ды сядайце у нас.

*Хрышчоны*. А ужо-ж прыдзецца, мабыць, прысесьці, бо за настой,—кажуць людзі,—ні влацяць. (*Падыходзіць да лавы і вітаецца з Язэпам*).

*Язэп*. Гэта прауда, судзя! Яшчэ і так людзі кажуць: пасядзі у нас—дома госьць будзеш.

*Хрышчоны*. А яшчэ і так людзі кажуць: той ні госьць у каго душа есьць: той госьць, у каго душа уцякла да нябес.

*Язэп*. І то прауда, судзя. Той для нас самы дарагі госьць, бо яго ужо болей ні убачым, з ім разстаемся на векі.

*Маці*. (*да Грышкавай мацяры*) Садзіся-ж, Малання у нас,—і ты Грышачка. Вярнууся, дзякуй Богу, жывы-здаровы?

*Грышка*. Вярнууся, хвала Богу (*цалуе руку старому і старой*).

*Дораш*. О, які малайчына стау!

*Хрышчоны*. Малайчына,—хоць бы і жаніць, дык можна, абы хто замуж пайшоу. (*Дастае кісет с тутуном ды набівае люльку*).

*Дораш*. Мусіць у самога махорка? Дай ты мне на люльку. У мяне вывялася. Сягодня быу у мястэчку ды забыуся купіць.

*Хрышчоны*. (*падае кісет*). Проша!

*Дораш*. (*набівае люльку*) Цяпер гэты бакун пайшоу у моду, дурунча розная; махорку тольві у Лэйзара і дастанеш настаяшчую.

*Хрышчоны*. Моладзь цяпер махоркі ні хоча курыць, а усе каб панскую, як ты кажыш, дурунчу розную. (*Дастае крэсіво ды высякае агонь*).

*Маці*. Можа сярнічак даць прыкурыць?

*Хрышчоны*. На што тыя сернікі? Сернікі грошы каштуюць. Сернікамі я прыкурываю люльку адно у воласьці, як у суд засядаю (*Сячэ агонь*). Нешта ні высякаецца. Дрэнна и агніво варожыць. А во, высяклося!.. (*Кладзе у сваю люльку і люльку Дорашову губку, кураць*).

*Хрышчоны*. Сын прыехау?

*Дораш*. Прыехау. Адпыхае з дарогі.

*Хрышчоны*. А Ярэму мусі прыбытак Бог паслау?

*Дораш*. Паслау.

*Хрышчоны*. Дачку ці сына?

*Ярэм*. Сына.

*Хрышчоны*. Гэта добра. Сын на сьвет радзіуся—прыбытак у хату, кажуць добрыя людзі.

*Дораш*. Тым часам куму на прыбытак скардзіцца трэ Праз кожныя два годы—і прыбытак.

*Кум*. Праціуку Бога, кум, ні пойдзеш. Што Бог дае тое і добра.

*Дораш*. (*жартуючы*) Можа тут і ні Бог... Кажуць жа людзі: калі сам ні плох, тады дае і Бог.

*Хрышчоны*. Ну, кум стараецца, дык яму і пасцяраецца

*Кум*. Ні так дауно і судзя перастау старацца..

*Хрышчоны*. Ну, ведома. А чаго-ж мне было ад людзі

блогаславіць сам пан Бог з неба высокаго, што угледзіу нашае горо і схіліуся да нашае беднасьці і дау нам тое, чаго мы ні заслужылі (да Язэпа, маткі і Костуся) А мае сваточкі і мая свацьца! Я сваім вачам ні веру, якое шчасьце паслау Бог майму дзіцятку. Ні пагардавалі вы намі бездольнымі. Ніхай вам Бог пашле з высокаго неба, чаго вы самі сабе просіце.

Бацька. Богу дзякуй, сваціайка!.. (маладыя устаюць)

Бацька. Янка, набяжы ты клікні свата Базыля з яго Ганнаю, і скажы на што клічуць.

Янка. Добра. (выходзіць)

Бацька. Ну, а цяпер проша да столу: (хрышчонаму) Лезь, сват, на кут! (маладая завязвае накрыж свату ручнік).

Хрышчоны. А мая дачка, яна міне і у маршалкі праізвела (цалуецца з маладою, а яна яго потым цалуе у руку).

Костусь. Ну, вот цяпер вы па дастоінству будзеце сядзець на першым мейсцы.

Хрышчоны. Гэта трэ' было свату сесьці на першым мейсцу; але ж кажуць людзі: госьць — нівольнік,— у чужой хаці сваіх парадкау ні навядзеш. Трэба садзіцца, гдзе кажуць (садзіцца у кутку).

Дораш. (да кума) Ну, а ты, кум, каля маршалка.

Кум. Я буду глядзець, дзе сваця Альжбета сядзе,— там і я: бо мая жонка цяпер, сам ведаеш, на рахунак ні ідзе.

Альжбета. Не, сватка, забываць сваю жонку цяпер горшы грах, як калі.

Дораш. Ну, сваця, садзіся тут, на зуслоні: ніхай ужо і ен ля цібе сядзе, бо усе роуна, кажуць людзі, блудліваго казла за дому ні прывучыш. (Альжбета садзіцца, налева ад яе кум; сам Дораш у канцы стала радам с хрышчоным. Старая ставіць на стол закускі: сало, сыр, масло і інш.. Костусь садзіцца з другога канца стала, на лаві воддаль).

Бацька. А ты ж, Костуська, чаго так далека сеу,— хадзі сюды! (паказвае каля сібе).

Костусь. Нічога, мне і тут добра. (Роля Костуся за сталом больш цікауная: ен весяла пасьміхаецца на жарты таго ці другога госьця, прабуе закусваць і т. д.. Наста выходзіць с хаты; Грышку садзяць каля хрышчонаго).

Дораш. (наліушы чарку). Ну, хто ж бы нам справу пачау?

Кум. Я з Альжбетаю пачну.

Дораш. Пачакай, кум! Ты у сягоднішняй справі маладзейшы. Гэта трэба маршалку пачынаць,— ен у нас сягодня самы старшы. А калі маршалак дазволіць, то я буду прасіць пачаць справу майго сына, бо ен тут першым вінаватцам быу.

Хрышчоны. І дазваляю і прашу свата пачаць.

Дораш. Ну, сын, пачні. Ты у нас госьць і на вяселлю ні будзеш,— паслухай ужо нас.

Костусь. (устае ды бярэ чарку) Ну, добра,— я пачну. Ну, шаноуны сваце, будзьце здаровы!

Хрышчоны. На здароуе!

Костусь. Пью за здароуе і шчасьце маладых. (выпівае да палавіны чаркі).

Хрышчоны. Ну, сватох, у самае дно! Каб і нам ні брыдка было дна даставаць.

Кум. Па мне дзеля, як сват хоча. Я і сам дна дастану.

Костусь. Вот бачыце, сват, ні трэба і паказваць. (Налівае чарку ды ставіць перад хрышчоным, а сам адыходзіцца на свае мейсцо).

Зьява XVII.

(*Тыя самыя і сват Базыль з жонкаю; наперадзі Янка*).

Ганна. Пахвалены Езус!..

Дораш. На векі, амін.

Ганна. (да Дораша) Трэба біць свата, што робіць крыема, як злодзей. Начау справу у ночы, нікому нічога ні сказаушы. Я і пірага ні сьпекла. Яшчэ добра, што мой дзед гарэлкі меу пляшку, а то не с чым было-б і прысьці.

Дораш. Ну, нічога,— добра будзе і без пірага; ні білі-б, каб прышлі і без гарэлкі.

Ганна. Ого без гарэлкі! Што-ж за ласка на чужое прыходзіць. Я і так ні хацела ісьці...

Базыль. Ах, ты манюка! Як толькі прышоу Янка, дык ні можна было удзержыць. Пойдзем ды пойдзем, і камзэлькі ні хацела мне дастаць.

Ганна. Гэтак, як і ты. Як прышоу Янка, дык калі скочыць з ложку, як заяц; забыуся, што і папсьніца перад гэтым балела. «Давай, давай, Ганка, камзэльку скарэй!» Ні дау мне і ложак памыць (усе гэта гаворыцца жартоуна).

Дораш. Ну, годзі вам сварыцца,— ідзеце вось за чаркай мірыцца (Ганна падчас размовы нешта ставіла на лаві і падыходзіць да столу).

Ганна. Да я вот бачу свата Костуся,— яго як Бог з неба скінуу. Ці ні ен тут і есьць застрэльшчыкам у гэтай справі?

Костусь. (ухільна) Не, сваця, тут ужо пачалі безмяне.

Ганна. (здароукаючыся) Ні здароу, сваточак; як маіцся?

Костусь. А нічога, як бачыце. (Адначасьне Базыль вітаецца з другімі гасьцьмі. Уваходзіць, часова вышаушая, маці-гаспадыня).

Ганна. (да яе) Во; цетка, Бог клопату паслау! (вітаюцца і цалуюцца).

Маці. (да Ганны) Ідзі-ж, садзіся. (Ганна падыходзіць да столу і вітаецца з Альжбетай).

Ганна. Во цетка, дзьве радасьці маіш—і сын прышоу і вяселле прынес.

Кум. (нібы з дакорам). Ого-ж сакатуха гэтая Базыліха. Пакуль яна тут усіх абойдзе ды с кожным пагаворыць, і пеуні засьпеваюць.

Ганна. Ну, ну, пістыднік! Бабу кінуу адну, а сам нябось прышоу, каб выпіць.

Кум. А хіба ж ты спаць сюды прышла? А што тычыцца бабы, то яна у міне есьць: во Альжбета пры баку сядзіць.

Дораш. Ну, сваця, годзі кума лаіць. (да хрышчонаго) Пускай, маршалак, далей.

Хрышчоны. Да каго ж мне піць? Маладзы ні пье, казау мне...

Кум. (да Альжбеты) Давай, сваця, заспяваем, можа да нас прапусьціць. (сьпеваюць)

А хто пьець, таму налівайце.
Хто ні пьець, таму ні давайце.
А хто пьець—чалавек добры,
Хто ні пьець—чалавек кепскі.

Кум. Во, і да нас прапусьцілі... Ну, дык здарова будзь, Альжбета!

Альжбета. На здароуе, сватох! (кум налівае ей чарку. Костуся ужо німа: Альжбета ні ведае да каго піць і пытае) Да каго піць мне цяпер?

Кум. Да мяне ні. З майго боку і сонцо усходзіць. Гэта і пачалі ні так, як трэба.

Базыль. Не, сват! Калі па прауду пайшло, дык сонцо тут, з нашаго боку усходзіць, прымерна, як раз проціу маршалкавай лысіны.

Кум. Ну, брат, ніна дурыну. Гэта лысіна маршалка можа табе здавацца сонцам, а у нас свае сонцо есьць. Ні да міне, Альжбета!

Альжбета. Ну, то здароу жа будзь, сватох!

Кум. На здароуе! Во, цяпер і на нашай вуліцы сьвята. Ці ні маю, сваця Ганна, сказаць што чаю, ці ты, сват Базыль?

Базыль. Ні маем. Мы саусім і гаварыць забыліся.

Ганна. Скарэй жа ты дай нам у році прамачыць,— можа што і скажам і песьню сьпяем.

Кум. Ну, калі так, то здарова будзь, сваццял!

Ганна. На здароуье! (закрывае налітую чарку рукою і зьвяртаецца да усіх) Ну, ціпер я ні пушчу далей, пакуль ні сьпяем Язэпу песьні.

Хрышчоны. Я гатоу разам тры засьпеваць, абы тольі сваццця гарэлкі ні затрымлівала.

Ганна. Ну, дык начном! А дзе-ж гэта Янка дзеуся, наш сьпявун пастаянны? Ці ні спаць ен лег? А сват Костусь з Настай буды уцек?

Маці. Яны у другой хаці там.

Ганна. (устае з-за стала ды ідзе да печы. Там на тапчане сьпіць Янка; будзіць яго) Уставай, Янка,—у гаспадара заручыны, а ен сьпіць! (Янка выходзіць і пацягаецца).

Дараш. Хадзі, Янка, выпі! (Янка падыходзіць ды пье).

Ганна. (адчыніушы хату) Сват Костусь, гдзе ты там? Вядзі сюды Насту,—сьпеваць будзем. (уваходзіць Костусь, за ім Наста) Сват яшчэ ні забыуся пэуня нашых песянь, і паможыж нам?

Костусь. Памагу, памагу,—з вялікай ахвотаю! (усе зьбіраюцца навакола стала).

Ганна. Ну, дык якую-ж нам песьню? Каб якую вясэлую? Кажы, сват Язэп!

Дараш. Не, ні люблю я вяселых. Засьпевайце мне лепей: «Салавейка лугавы». Гэтая песьня пры дзядох сьпевалася і нам спадабалася.

Ганна. (пачынае).

Салавейка лугавы,
Ні пой рано да зары,
Ні будзі ты сьвякраві!
Мая сьвякроу ліхая
Да зараные устае,
Мне работу закажа,
Сама у ложу спаць ляжа.

Вот выду ж я на сяло,—
Нідзе агню ні відно.
Аж у нас агонь гарыць,—
Маці с сынам гаворыць:
—Трэба, сынку, жонку біць
Трэба не навучаці,
А то мушу разлучаці.

—Ідзі, маці, жабраваці,
Нас ні будзеш разлучаці!
Выйшау у стайню—коні есьць,
А у сьвятліцу—жаны нет.
—Ой, вы браткі, вы мае,
Запрагайце коні мне!
Я паеду гуляці,
Свае мілай шукаці.

Еду поле—ні відно,
А другое—ні чутно.
А на тройцы узьезджаю—
Аж мілая гуляе.
І платочкам махае:
—Ні едзь, мілы, да міне,
Бо ні возьмеш ты мяне!
—Хоць коніка утрачу,
Такі мілую убачу,
Хоць галоуку палажу,
Такі мілую азьму!

(Скончыушы песьню, некі час маучаць).

Дараш. Засьпевайце мне яшчэ, мае мілыя: «Чырвона каліна». (сьпеваюць).

Чырвона каліна,
Ты у лузі стаяла.
Ты у лузі стаяла
Дожджу ты жадала.
Ты дожджу жадала,
Ветры забывала.
Малада дзяучына
Смутна, невясела.
Ці галоука болі?
Ці сьвету ні довалі?
—Мне галоука ні болі,
Мне сьвету давалі,—
Аб тым мне журба,
Што ні дау Бог долі.
Што ні дау Бог долі,
Як маей радзіме;
Як мая радзіма
Багата, шчасьліва:
І пье, і гуляе,

І усе ж яна мае.
А я маладзенька
Ні п'ю, ні гуляю,
Ні п'ю, ні гуляю,—
Усе хлеб зарабляю.
Ой, Божа мой, Божа
З высокаго неба;
Ні дай жа мне, Божа,
Заслужнаго хлеба.
Бо хлеб той заслужны
Ен вельмі патужны,
Ды хто яго укусіць,
Той плакаці мусіць.
Укрою кусочак
С кляновы лісточак
Ды выду у сені
Ды зьем за дзьвярыма.
Зьем за дзьвярымі,
Заліюся сьлязамі.

---

Каліна-маліна,
Ты у лузі стаяла.
Ты у лузі стаяла.
Ды стоючы зьвяла.
А на тым мейсцы
Царквука стаяла;
Там бедна сірата
З нялюбым шлюб брала,
З нялюбым шлюб брала

Ды у шлюба пытала:
—Ой, шлюбе, мой шлюбе!
Скажы шчыру праудаю:
Ці лепей шлюб браці.
Ці горы капаці?
—Гору сап-пушы,
Садзеш, адпачынеш.
А з нялюбым жыучы
На векі загінеш!

Янка. Вот песянька, дык песянька! За душу бярэ, за самае сэрцо шчыпле (за сцэнаю чуваць скрыпка і цымбалы).

Дараш. (гледзючы у вакно). Гэ, да гэта Міхалка з моладзью дамоу варочаіцца. Міхалка! сюды хадзі і моладзь с сабою вядзі!

Зьява XVIII.

*(На сцэні с шумам і гоманам зьяуляецца моладзь).*

Дараш. Вы ведаеце, козы вы, чаго я вас паклікау?

Дзяучына. Ведаім.

Дараш. Ну, чаго-ж?

Янка-ж. Напаіць нас, дзядзька, хочыш.

Дараш. Напаіць? Бачыш ты,—яшчэ-ж ні вяселле. Я хачу сына жаніць і хачу выбраць адну з вас за нявестку сабе. Ну, вот ты, Магдалена, пойдзеш за майго сына?

Дзяучына. Ні пайду!

Дараш. Чаму?

Дзяучына. Бо лепшаго маю, во гэтаго (абнімае нізграбнага хлопца, той адбіваецца; усе рагочуць).

Дараш. Ну, Міхалка, выпі ды заграй ім, каб аж тараканы у шчылінi затанцавалі, а вы паскачыце, павяселіце міне старога; па вяселлі усіх напаю. (дае Міхалку чарку гарэлкі і закуску; моладзь становіцца у пары).

Кум. Хіба у міне ногі адсохнуць, калі я буду сядзець, калі музыка грае і цымбалы бьюць. Хадзі, сваццця Альжбета!

Базыль. Ідзі, баба,—тупнім і мы с табою.

Дараш. Хіба і мне с старою успомніць моладасьць? Хадзі, ці што, старая! (музыка грае; усе пачынаюць скакаць).

*К. Вяселы.*

(Заслона спадае).

(Канец).

---

* * *

З Новым Годам, родны браце,
Нішчасны ваяча!
Па табе ні раз мо' у хаце
Тая сямейка плача.

Выглядаюць дзеці, жонка
У час' ніпагоды,—
Ці ні стукне у ваконка
Іх татулька родны.

Або маці, як галубка,
Прагледае вочы,
Ці найернецца Якубка,
Той сынок урочы.

Вы, што біліся з варогам
І клалі галовы,
Варочайцеся жа з Богам
У гэты Год Новы.

З Новым Годам, браце мілы,
Хлебаробе з вескі,
Ніхай Бог прыспорыць сілы
І здароуья трошкі.

Ніхай спорыцца вашэці
Па мазольным трудзе
У хляве, гумне і клеці,
У гаршку, у арудзе.

Гаравау ты восень, лето,
Выліу многа поту,—
Спажывай здароу-жа гэта.
І ні знай клапоту!

З Новым Годам, браце страчны,
Што сядзіш у палацы,
Ты, што сыты і бязпечны
І с чужой жыу працы.

Еу ты смачна, ні па жарты,
Ды у віне купауся,
Гуляу ёмка, грау у карты
І у пуху качауся.

Скінь атласы і ядва-бы,
Шубу с сабалямі,
І забудзь, што быу ты «грабя»,—
Параунайся з намі.

Пакінь пыху, паве браце,
Бо яе ні трэба.—
Будзем разам працаваці
На кавалак хлеба!

**Стары Улас.**

сій і контрыбуцый. У сваой рэчы, нямецкія умовы міру адрэзаюць ад Расіі востравы Моозунд, часць Беларусі з Вільняй і часць Украіны. Граніца канчаецца каля Брэсту.

«Гэткая граніца—казаў Троцкі—згубная для Расіі с погляду стратэгічнаго, эканомічнаго і этнографічнаго, і зусім пярэчыць варункам дэмократычнаго міру».

Далей Троцкі прызнаўе, што нямецкія умовы міру вымагаюць скрытай контрыбуцыі у суме каля 8 міліярдау. Троцкі дапушчае, што ўлада нар. камісарау будзе прымушана зрабіць мір і пры гэтакіх варунках.

## Нізалежная Украіна.

11 (24) студня г.г. у ночы апублікован у Кіеві IV-ы універсал, абвешчаючы зусім нізалежную Украіну.

Пасядзэнне Малої Рады, на каторым была апрацована апошняя рэдакцыя універсалу, было вельмі людне. Шмат публікі чакало гэтаго гістарычнаго акту. А гадзіні першай у ночы прафэсар Грушэўскі прачытау універсал. У пачатку універсал гаворэ, што народ украінскі змучаны вайной, а тымчасам рада народных камісарау у Петраградзі перашкаджае зрабіць мір, заклікае да новае вайны, якую называе сьвятой. Разам с тым, народныя камісары вядуць братабойную вайну, пасылаючы с Петраграду земнае войско чырвонай гвардзіі, якое нішчыць гаспадарку народу украінскаго, вывозе безплатна збожжо у Расію, ні асталяючы нават на пасенне. На краю размножыліся шайкі грабежнікау, льецца кроу нівінных людзей. Усе гэта прымушае Раду, ні чакаючы украінскаго установчаго сойму, распачаць становучыя заходы: «Дзеля таго,—кажа далей універсал—каб давесьці да канца справу міру, упарадкаваць край, захаваць дабрабыт грамадзян, мы, Цэнтральная Украінская Рада, абвешчаем: ад гэтаго часу украінская народная рэспубліка становіцца нізалежным, свабодным, суверэнным гаспадарствам народу украінскаго. З усімі сваімі суседзямі, як Расія, Польша, Аўстрыя, Румынія, Турцыя,—Украіна будзе жыць у згодзі і прыязьні, але ні водзін з іх ні мае права умешвацца у жыцце нізалежнай украінскай рэспублікі. Уласьць у ей належыць будзе толькі украінскаму народу, ад імяні каторого покуль зьбярэцца сойм, упраўляць будзе Украінская Цэнтральная Рада, як прэдстаўнік работнікоў, селян і салдат, і яе выканаўчы орган, каторы ад гэтуль будзе называцца «Радаю народных міністрау.» Рада міністрау павінна весьці распачатыя ужо перагаворы аб міру зусім самадзельна і давесьці іх да канца, ні зьвертаючы увагі ні на якія перашкоды з боку якой бы-то ні было часьці бышшай расійскай імпэрыі і зацьвердзіць дэмакратычны мір, каб народ наш распачау уласнае жыцце у спакою і згодзі. Што датыча большэвікоу і іншых гвалтоўнікоу, якія нішчуць наш край, прыказуем ураду выступіць з імі да рашучаго змагання. Украінскае паньство [дзяржава] павінно быць ачышчэно ад наемных гвалтоўнікоу, якія пасягаюць на права нашаго народу.»

У заканчэнне універсал парушае цэлы рад найважнейшых спрау унутранаго жыцця Украіны і паказвае способы іх вырашання.

## „Великороссъ".

Пачаўся вялікарускі нацыянальны рух. У Маскве выходзіць газэта вялікарускіх адраджэнцау «Великороссъ».

У часі «переоцѣнки цѣнностей» усе нацыі Расіі пачалі самавызначацца. Нарэшці, хоць спозьнено, прыступілі да гэтаго і велікарусы.

«Великороссъ» тлумачыць сваё спозьненае выступленне гэтак:

«Было-бы дзіуна, калі-б у першыя мінуты разрухі вялікарускі народ,—зьбірацель гасударства, тварыцель ей еднасьці—першы шкодзіў-бы гэтай еднасьці, пачынаючы самавызначацца, і думаць аб сабе, называючы акружаючым яго народам, як братэрскім маларусам і беларусам, так-сама і другім, рабіць як яны знаюць.»

Газэта «Великороссъ» падае цэлы цыкль гарачых адозваў-поклічау да вялікарускаго народу. У гэтых адозвах—самабічаванне, раскаянне у вялікіх грахох, у сваей цемнаце:

«Народ наш «страціў сябе» у сумную гадзіну гора. І як чалавек «каторы сябе страціў», яму трэба зьбірацца у гурток, апамятацца, падвесьці самім сабе ва усім падрахунак, зразуменьць, хто ен, што яго акружае і што чакае.»

«Да гэтаго часу яшчэ шмат рускіх людзей, жыхароу цэнтра, ні ведаюць нават, што яны «Вялікарусы». А глаўнае—селяне называюць сябе або проста «рускімі», або «праваслаўнымі».

І вось яны знайшлі сваю назву:

«Яна—Вялікаросія».

«Великороссъ» у цэлым раду артыкулаў тлумачыць духоўную самабытнасьць і псыхіку вялікоруса, каторы «шмат рожніцца ад украінцау і беларусаў». Так само газэта вызначае этнографічную граніцу Вялікаросіі.

Гэта усё добра, і усе суседнія народы гатовы сымпатызаваць і спагадаць новаму руху, калі ён пойдзе простым, натуральным шляхам. Толькі ёсьць тут адзін дысонанс—«апека» над «малодшымі братамі сваімі». Жаданне захаваць свае першынство—так тарчыць, як шыло у мяшку. І сьмешна робіцца, калі «Великороссъ», посьля вялікаго стагвання аб нацыянальным упадку, дзе ён раіць павучыцца у украінцау, дону і гр., кажа:

«А памятайце і ведайце, што для вас адзін толькі шлях—самім будаваць Вялікаросію, а з ей і праз яе—Расію!»

І яшчэ у шмат другіх мейсцох газэты зрабіваецца тэндэнцыйнасьць «апекі.»

Не, «Великороссъ», апекуйся лепей над сабою, а беларусы і украінцы зладзяць самі с сабою управяіца...

## Беларускі тэатр.

**«Пашыліся у дурні»—камэдыя Крапіўніцкаго.**

22 студня г.г. у памешканню дзіцячай сталоўкі В. З. С., нідалёка ад Александраўскаго вакзалу, адбыўся беларускі спэктакль, стаулены «Першым Беларускім Т-вам Драмы і Камэдыі».

Ставілі камэдыю Крапіўніцкаго «Пашыліся у дурні» і дывэртысмэнт.

Ігралі наогул добра. Асабліва выдзеліліся А. Крыніца (роль Драўко), Я. Беларус (роль Кукса), Р. Жакоўскі (роль пісара). Дрэнна іграу толькі Б. Сьвілэрскі, які меў, можна сказаць, адну з лепшых роляў [Ігнышара].

За тое дэкламацыю і сьпевы публіка сустрэчала гарачымі аплескамі.

Трэба адзначыць, што апошнімі часамі беларускі рух сярод служачых Ліб.-Ров. і Алекс. ж. д. расьце вельмі моцна. Прабуджаецца нацыянальная сьвядомасьць, а разам з ею зацікаўленне усім беларускім.

Дык калі у прывакзальным раёні ставіцца беларускі тэатр, публіка напоўняе залю у літэрным значэнню гэтаго слова.

В. Ю.

Рэдактар Я. Лесік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.